**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 14 (887) 6 красавіка 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



ISSN 2077-8023



Сенненскі раён

## Зноў спешка і неразбярыха

■ Чэслаў Якубовіч.

**Апошнім часам чамусьці на многіх значных айчынных будаўнічых аб'ектах справы не ідуць зладжана і рытмічна.**

Вось і райцэнтр Дуброўна напярэдадні праведзення ў пачатку восені сёлета абласнога свята-кірмашу працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2017" яшчэ не ўключыўся ў маштабную працу, хоць да яго пачатку засталося паўгода часу. З гэтай нагоды трывогу за выкананне ў тэрмін намечаных работ выказалі ўдзельнікі выязнога абласнога штаба па падрыхтоўцы "Дажынак" у Сянно. Толькі па абнаўленні аўтастанцыі актыўна пачалася праца яшчэ летась, зімой пачалі замену ліній электраперадач, пачалі добраўпарадкаванне чатырох галоўных вуліц горада. На большасці астатніх аб'ектаў праца па іх рэканструкцыі вядзецца марудна, бо не была гатова ўся праектна-каштарысная дакументацыя і не былі атрыманы неабходныя экспертызы. Зацягнуў з тэрмінам рамонту сваіх гандлёвых кропак і кафэ ў Сянно Белспажыўсаюз. Сарваны тэрміны рэканструкцыі цэнтральнага ўнівермага. Зрываюцца раней намечаныя тэрміны рэканструкцыі СШ № 1, трох дзіцячых садоў, а аддзялення Белаграпрамабанка, медыцынскіх аб'ектаў і гарадскога стадыёна – яшчэ з-за таго, што яны знаходзяцца ў водаахоўнай зоне. Аднак актыўней іншых вядуць працу на абнаўленні цэнтральнай плошчы коштам 20 млн. новых рублёў, 26 дамоў жылфонда і прыдарожнай тэрыторы работнікі райкамунгаса. У райцэнтры не абысціся без спешкі таму, што напрыканцы вясны тут пройдзе традыцыйны міжнародны фестываль мастацтваў "Дняпроўскія галасы".

Полацкі раён

## Адна надзея на суд

■ Кастусь Александровіч

**Такога імклівага пагаршэння жыццёвага ўзроўню даўно не перажывалі жыхары глыбінкі і правінцыйных цэнтраў.**

Нават у адным з самых багатых гарадоў Беларусі Наваполацку сітуацыя змянілася ў горшы бок, бо са стратамі стаў працаваць мясцовы, нафтаперапрацоўчы завод "Нафтан". У сувязі са складанай фінансавай сітуацыяй прадпрыемства адмовілася аказваць спонсарскую дапамогу свайму футбольнаму клубу вышэйшай лігі. На шчасце, усё вырашылася на больш высокім сталічным узроўні. Руку дапамогі камандзе працягнуў канцэрн "Нелнафтахім", у чэмпіянаце Беларусі яна прадоўжыць гуляць у эліце, хоць і будзе самай беднай і недаўкамплектаванай. А вось многім маладым работніцам мясцовай гандлёвай сеткі "Базіс" няма на кага разлічваць. Ранейшы паспяховы гарадскі рытэйлер не вытрымаў канкурэнцыі, апынуўся на мяжы банкруцтва. Па гэтай прычыне з яго былых 12 магазінаў засталіся працаваць адзінкі, значную частка нерухомасці "Базіса" выставілі на продаж. З былога буйного гандлёвага прадпрыемства з тысячай працуючых многія ўжо звольніліся, іншых адправілі ў водпускі за свой кошт. Свае цяжкасці ўзніклі і ў маладых работніц сеткі, якія сталі і мамамі і знаходзяцца ў водпуску па доглядзе за дзецьмі і ў дэкрэтным адпачынку. Аднак прадпрыемства не стане ім выплачваць патрэбную дапамогу на дзяцей у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам. Больш дзесяці маладых мам не сталі чакаць, калі ім вернуць даўгі па дэкрэтных выплатах і ад адчаю звярнуліся ў суд з іскамі. Іншая справа, што такія вось прадпрыемствы-банкруты множацца ў розных сферах з-за крызісу, таму няпроста жыць сем'ям з маленькімі дзецьмі.

Аршанскі раён

## Закон што дышла

■ Станіслаў Раманчук.

**З пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў нашай краіне не было такіх масавых маршаў пратэсту і мітынгаў, як сёлета вясной супраць Дэкрэта № 3.**

Услед за іншымі беларускімі гарадамі зноў выйшлі на вуліцы людзі і ў Оршы, дзе перад распадам СССР нават перакрываліся чыгуначныя пуці пасля рэзкага росту цэн. На гэты раз прамысловы цэнтр "праславіўся" тым, што тут найболей было затрымана ўдзельнікаў акцый і, на жаль, журналістаў, якія выконвалі свае прафесійныя абавязкі. На словах у Беларусі нібыта гарантавана свабода слова, а на справе яшчэ на мясцовым чыгуначным вакзале міліцыянеры спынілі траіх прыехаўшых з Віцебска работнікаў СМІ. Праўда, людзі у пагонах дзейнічалі даволі ветліва, але адвялі ў залу павышанай камфортнасці супрацоўнікаў партала TUT. BY Таццяну і Ігара Мацвеевых, рэдактара "Народных навін Віцебска" Сержука Серабро для праверкі дакументаў. Гэта праверка доўжылася паўтары гадзіны, а затрымку патлумачылі нібыта тым, што "завіс" сервер" з базай дадзеных на правапарушальнікаў МУС. Яшчэ болей не пашанцавала журналістам, прыехаўшым з Мінска. Спачатку быў затрыманы тэлеаператар тэлеканала "Белсат", а потым на суткі ў камеру былі пасаджаны дзве жанчыны-журналісткі Кацярына Бахвалава з гэтага тэлеканала і Галіна Абакунчык, якая працуе на рэдакцыю Радыё Свабода. Іх пазней аштрафавалі на буйныя сумы за быццам непадпарадкаванне супрацоўнікам праваахоўных органаў. Арышт на 13 сутак атрымаў рэдактар мясцовага сайта, у Оршы прайшлі вобыскі ў офісе дэмакратычных актывістаў, што нега–тыўным чынам уплывае на імідж Беларусі ў свеце з-за падаў–лення свабоды выказвання думак мірным шляхам.

## Аб самым надзённым

### ВА ЎМОВАХ КРЫЗІСУ І ЗБЯДНЕННЯ НАСЕЛЬНІЦТВА Ў БЕЛАРУСІ МОГУЦЬ УВЕСЦІ СІСТЭМУ СТРАХАВАННЯ АД БЕСПРАЦОЎЯ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Ужо і наш Белстат не хавае, што ўзровень фактычнага беспрацоўя ў Беларусі летась склаў 5,8% ад эканамічна актыўнага насельніцтва, што ў 4 разы вышэй афіцыйна прызнанага. А ў дзяржавы ўсё меней цяпер грошай, каб падтрымаць людзей без працы…**

З канца сёлетняй зімы ў Беларусі невыпадкова сталі праходзіць даволі масавыя "маршы недармаедаў". Спачатку такая значная па колькасці ўдзельнікаў несанкцыянаваная акцыя прайшла ў Мінску, потым яны перакінуліся на абласныя цэнтры і буйныя гарады, а пазней сталі людзі гаварыць аб сваіх праблемах у невялікіх райцэнтрах. Прэзідэнт неўзабаве зноў стаў абвінчаваць "пятую калону" ў нагнятанні абстаноўкі ўнутры краіны, а сілавікі даволі жорстка сталі затрымліваць актывістаў такіх пратэстных акцый, суды – караць суткамі арыштту. У выніку такога вось абвастрэння палітычнай актыўнасці мас кіраўніцтва краіны адрэагавала прыпыненнем дзеяння ў гэтым годзе непапулярнага Дэкрэта № 3.

Дарэчы, да гэтага моманту падобны збор на фінансаванне дзяржрасходаў паспелі заплаціць каля 46 тысяч суайчыннікаў. Фактычна, гэта быў толькі адзін з дзесяці беларусаў, які даслалі "лісьмы шчасця". У агульнай суме дзяржаўны бюджэт папоўніўся нязначнымі паступленнямі - амаль 14 млн. рублёў. Хоць першапачаткова нашы ўлады разлічвалі на большыя сумы, але калі вуліцы забурлілі, А. Лукашэнка даў указанні зноў перагледзіць катэгорыі асоб, якім пазней усё ж прыйдзецца плаціць гэты дзіўны падатак на "тунеядство". Прэзідэнт адначасова заняўся далейшай аптымізацыяй органаў дзяржкіравання і загадаў адсекчы ўсё лішняе, што плодзіць бюракратыю і перашкаджае дынамічнаму развіццю Беларусі.

Між тым дзяржапарат дзейнічае даволі зладжана, калі ўзнікла неабходнасць, то цэны на паліва крыху павысілі на ўнутраным рынку нафтапрадуктаў. Кіраўніцтва краіны адначасова катэгарычна забараніла скарачаць і звальняць работнікаў без узгаднення з мясцовымі органамі ўлады. А ў профільным Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны афіцыйна аб'явілі аб планах павышэння дапамогі па беспрацоўі да бюджэту пражытковага мінімуму (БПМ). Пра гэта паведаміў першы намеснік міністра Андрэй Лабовіч. Па яго словах, тым беларусам, каго звольняць у выпадку скарачэння колькасці альбо штату працуючых, такая дапамога павысіцца да 100 % БПМ.

Іншым работнікам, якія застануцца без працы па ўважлівых прычынах, плануецца плаціць да 50 % БПМ. Такую прапанову падтрымалі яшчэ два беларускія Міністэрствы фінансаў і эканомікі, а раней іх пра гэта выказваліся нашы прафсаюзы. Ва ўсялякім выпадку сам гэты дакумент ужо разглядаецца ва ўрадзе Беларусі, а неабходныя фінансавыя рэсурсы закладзены ў рэспубліканскі бюджэт. Канчатковага рашэння, ці запрацуе гэты механізм сёлета, а з наступнага 2018 года замест яго пачне дзейнічаць сістэма страхавання ад беспрацоўя, пакуль няма.

Справа ў тым, што чыноўнікі цяпер думаюць, як паступаць ім далей, бо ніхто іншы, як нязменны кіраўнік дзяржавы ў сваім стылі запатрабаваў да 1 мая працаўладкаваць усіх беспрацоўных беларусаў. Не здымаецца з парадку дня і іншая цяжкавыканальная задача давесці сярэднюю зарплату па краіне да 500 долараў. Дагэтуль дапамога людзям, якія страцілі працу, у нашай краіне была адной з самых мізэрных у свеце, у памеры каля 13 долараў. Калі будуць уведзены новыя правілы яе выдачы, то сярэдні памер новай страхавой дапамогі па беспрацоўі складзе 60 % ад сярэдняй зарплаты работніка. Яе планавалі выплочваць на працягу 26 каляндарных тыдняў ( спачатку 70 % ад заробку за першыя 13 тыдняў і 50 % - за наступныя 13 каляндарных тыдняў).

Як вядома, у эфіры аднаго з айчынных тэлеканалаў новы міністр працы і сацабароны Ірына Касцевіч паабяцала выканаць даручэнні главы дзяржавы. Аднак беспрацоўным беларусам на цуда няма чаго спадзявацца: свабодных вакансій на рынку працы па іх кваліфікацыі асабліва няма. Ім крыху дапамогуць зарабіць невялікія грошы і дадуць усім жадаючым накіраванні за аплачваемыя грамадскія работы: а гэта праца, дзе не патрабуецца асаблівай адукацыі і пэўнага ўмення. Звычайна гэта ўборка вуліц і добраўпарадкаванне тэрыторыі, догляд могілак, работы ў полі і ў лясных масівах, пераборка бульбы і гародніны, на што на месцах любілі прымусова пасылаць рабочых і служачых.

Адзін з важнейшых кіраўнікоў краіны Міхаіл Мясніковіч падчас рабочай паездкі на Брэстчыну прама сказаў, што на грамадскія работы трэба прыцягваць найперш тых, хто не працуе і свядома не хоча працаваць увогуле. Як бы там ні было, але відавочна, што намечаныя звэрху меры праблемы з занятасцю насельніцтва і тым больш па выхадзе з крызісу не вырашаюць. Па падліках спецыялістаў, у чатырах дзясятках невялікіх беларускіх гарадоў і райцэнтраў ( у ліку іх Елізава, Смілавічы, Чысць, Лунінец, Варапаева, Лынтупы і нават Пліса на Глыбоччыне) цяпер на мяжы выжывання іх асноўныя горадаўтваральныя прадпрыемствы. Ужо і наш Белстат не хавае, што ўзровень фактычнага беспрацоўя ў Беларусі летась склаў 5,8% ад эканамічна актыўнага насельніцтва, што ў 4 разы вышэй афіцыйна прызнанага. А ў дзяржавы ўсё меней цяпер грошай, каб падтрымаць людзей без працы…

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 30.03.17 | | | | Пятніца 31.03.17 | | | | Субота 01.04.17 | | | | Нядзеля 02.04.17 | | | | Пн.03.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | -1 | +3 | 0 | 0 | +1 | +9 | +8 | +6 | +3 | +5 | +5 | +6 | +9 | +16 | +12 | +8 | +6 | +9 |
| Ціск | 748 | 752 | 756 | 756 | 754 | 747 | 745 | 745 | 747 | 750 | 751 | 751 | 749 | 748 | 747 | 743 | 741 | 742 | 747 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-З | 5 Пн | 4 Пн | 1 Пд | 5 Пд | 8 Пд-З | 7 З | 4 З | 3 Пн-З | 2 Пн | 3 Пд | 2 Пд-У | 4 Пд | 5 Пд-З | 7 Пд-З | 5 Пд-З | 4 З | 8 З | 8 Пн-З |
| Вільготнасць | 92 | 79 | 44 | 77 | 70 | 100 | 93 | 94 | 97 | 90 | 76 | 88 | 98 | 100 | 64 | 78 | 96 | 96 | 59 |

## Дзень за днём

**Беларусь стала плаціць за газ "саюзнай" Расіі, амаль як Германія. Пад пагрозай забароны на ўвоз у Расію апынуўся і беларускі сыр. Белстат упершыню назваў узровень рэальнага беспрацоўя – 5,8 %. Айчынныя банкі за год збяднелі яшчэ на 5,9 млрд. новых рублёў. Нацбанк Беларусі зноў знізіў стаўку рэфінансавання да 15 % гадавых. Без працы зараз больш 200 тысяч беларусаў. У студзені зарплаты знізіліся амаль на 81 рубль у 115 са 118 раёнаў Беларусі. Пасля маршаў пратэсту супраць дэкрэта аб "дармаедах" сталі судзіць найбольш актыўных іх удзельнікаў. Навучальны год для старшакласнікаў зробяць крыху карацейшым.**

# Важнейшыя навіны свету

**Саудаўская Аравія**. Нафтавая дзяржаўная кампанія Saudi Aramco рэзка знізіла кошт нафты на ўсе гатункі для ўсіх кліентаў, асабліва – у Азіі, вырас экспарт нафты з ЗША.

**ЗША.** Дзяржсакратар Рэкс Тыллерсан пацвердзіў, што ЗША разам з саюзнікамі будуць супрацьстаяць краінам, якія пагражаюць сваім суседзям і дэстабілізуюць свае рэгіёны.

**Англія.** Палата лордаў запатрабавала ад урада краіны захаваць жорсткі курс і санкцыі супраць Расіі, пакуль Масква не выканае свае абавязацельствы перад Украінай.

**Бельгія.** Намеснік камандуючага сіламі НАТО ў Еўропе брытанскі генерал А. Брэдшоу заклікаў альянс да гібрыднага стрымлівання ваенных пагроз і кібератак з боку Расіі.

**Расія.** Экс-дарадца Пуціна А. Сыцін заявіў, што Крэмль канчаткова не вырашыў, як весці адносіны з Беларуссю, але так ці інакш яна стане ахвярай гібрыднай агрэсіі з боку РФ.

**Украіна.** ГРУ Міністэрства абароны паведаміла, як аўтамабіль аховы главы сепаратыстаў "ДНР" урэзаўся ў людзей на прыпынку ў Данецку, забіў чалавека, ДТЗ хацелі скрыць.

**Германія.** Глава Міністэрства замежных спраў Зігмар Габрыэль заявіў, што ўзброенае супрацьстаянне ў Данбасе закранае не толькі ўкраінцаў, але і кожную краіну ў Еўропе, мір там патрэбен еўрапейцам.

**Францыя**. Група кампаній PSA Peuqeot Citroen купіла ў амерыканскага канцэрна General Motors за 2,2 мільярда еўра нямецкую аўтакампанію Opel з яе заводам у Англіі.

**Шатландыя.** Першы міністр краю М. Стэрджэн пацвердзіла, што новы рэферэндум аб выхадзе шатландцаў са складу Вялікабрытаніі можа адбыцца восенню 2018 года.

**Расія.** Фонд па барацьбе з карупцыяй А. Навальнага апублікаваў звесткі аб шматлікіх палацах, яхтах, іншых актывах, якімі валодае глава "Адзінай Расіі" Д. Мядзведзеў.

**Кітай.** Краіна прадставіла мэтавы крэдыт уладам Ірака на закуп узбраенняў у суме 1,5 мільярда долараў, на ваеннай выставе ў ААЭ прадставіла навейшы кітайскі танк VT-4.

**Расія.** У расіян, па апытаннях сацыёлагаў, значна змяніліся грамадскія настроі, яны меней саромяцца беднасці, рэпрэсій, адставання ад Захаду, але ганарацца анексіяй Крыма.

**Латвія.** Служба пагранічнай аховы пацвердзіла, што на праблемных участках граніцы з Беларуссю з'явіцца металічны плот вышынёй 2 метры з калючым дротам.

**Малдова.** У першым чытанні законапраекта дэпутаты парламента непрызнанай "ПМР" вырашылі зацвердзіць расійскі трыкалор другім дзяржаўным сцягам псеўда-рэспублікі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Эканаміст Я. Раманчук заявіў, што відавочна наменклатурнаалігархічная мадэль інтэграцыі з Расіяй у ЕАЭС і праект "Саюзная дзяржава" з трэскам праваліліся.

**Добруш.** У двары свайго дома ў райцэнтры загінула вечарам ад чэрапнамазгавых траўм 58-гадовая пенсіянерка, яе ў сварцы так моцна збілі тры мясцовыя жанчыны без працы.

**Мінск.** Без сістэмных рэформ, як папярэдзіў эканаміст Л. Злотнікаў, заробкі беларусаў упадуць яшчэ болей, бо пачаўся крызіс усёй неэфектыўнай эканомікі, як на Кубе і КНДР.

**Крычаў.** У раёне зафіксаваны самы высокі ў Беларусі ўзровень беспрацоўя, 1,6 % да эканамічна актыўнага насельніцтва, падобная сітуацыя таксама і ў Лідзе, Мастах.

**Мінск.** Выйсці нам з ЕАЭС, як папярэдзіў палітолаг А. Класкоўскі, не атрымаецца, бо Расія адразу прыменіць тут у Беларусі Крымскі альбо Данбаскі сцэнарый.

**Гомель.** Сацыяльны пратэст супраць дэкрэта № 3, як пацвердзіў палітолаг П. Быкоўскі, супаў з ідэйным у Курапатах на фоне рэальных праблем на рынку працы, у вытворцаў.

**Мінск.** А. Лукашэнка загадаў прапісаць у новых падручніках гісторыю станаўлення дзяржаўнасці ў Беларусі, пачынаючы з часоў Полацкай зямлі ў сярэдзіне IX стагоддзя.

**Баранавічы.** Лідар акцыі "дармаедаў", магістр міжнароднай эканомікі М. Стрэльчык заявіў, што людзі выйшлі на вуліцы з-за пачуцця безвыходнасці, жыцця ў такой галечы.

**Мінск.** Для беларусаў, як заявіў эканаміст Я. Раманчук, наступаюць "чорныя дні", бо многім прыйдзецца адмовіцца ад ранейшага рэжыму спажывання, жыць вельмі эканомна.

**Барысаў.** Міністэрства абароны Беларусі пацвердзіла, што прама на плацу 72-га аб'яднанага вучэбнага цэнтра ў Пячах памёр салдат-дэсантнік, якому раптам стала дрэнна.

**Мінск.** Палітолаг Д. Галко заявіў, што перагляд адносін дзяржавы да месца Курапаты трэба вітаць, бо гэта – процідзеянне супраць паўтарэння Беларуссю лёсу Данбаса.

**Курапаты.** Лаўрэат Нобелеўскай прэміі С. Алексіевіч заявіла, што каб такое было ў Варшаве, то ўся Варшава была б у Курапатах, як і Вільня, грамадству трэба прачнуцца.

**Лунінец.** З-за складанай эканамічнай сітуацыі з прадпрыемства "Палессеэлектрамаш" з 540 працуючымі звольніліся з канца восені больш 10 кіраўнікоў і галоўных спецыялістаў.

**Брэст.** Пасля поспеху з мужчынскімі шкарпэткамі панчошны камбінат выпусціў у кансервавых банках і драўляных скрыначках і падарункісюрпрызы для жанчын.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З трохдзённым рабочым візітам абласны цэнтр наведала дэлегацыя з кітайскага горада Харбін і прапанавала варыянты прамых паставак лёну з Віцебшчыны ў Кітай.

**Паставы.** Самую буйную ў Беларусі падстанцыю з электракацельняй магутнасцю 330 кВ, адзін з 23 комплексаў узводзімай АЭС у Астраўцы ў маі запусцяць пад напружанне.

**Верхнядзвінск.** На мясцовым масласырзаводзе запусцілі ў эксплуатацыю новую сучасную поўнасцю аўтаматызаваную аўстрыйскую лінію па вытворчасці сыроў.

**Наваполацк.** Ноччу падчас пажару ў адным з інтэрнатаў горада, дзе загарэлася канапа на карыдоры, наглыталася дыму і патрапіла ў бальніцу 2-гадовая дзяўчынка.

**Ушачы.** На выязны прыём да старшыні парламента У. Андрэйчанкі прыехалі і работніцы Талачынскага элеватара, не згодныя з яго далучэннем да Аршанскага агрохолдынга.

**Браслаў.** У ліку 8 раённых цэнтраў краіны кампанія МТС упершыню на Віцебшчыне запусціла ў горадзе сувязь 4G з хуткасцю мабільнага інтэрнэта LTE да 112 Мбіт у секунду.

**Докшыцы.** У кінаканцэртнай зале "Іскра" прайшоў чарговы злёт перадавікоў народнай гаспадаркі па выніках дзейнасці раёна летась з удзелам гасцей з Ушач, Мядзела і Лагойска

**Фарынава.** Днём невядомы мужчына з электрашокерам напаў на жанчыну-касіра і абрабаваў аддзяленне "Беларусбанка", забраў з касы 10,5 тысяч рублёў і знік.

**Мёры.** У адразу трох жыхароў вёсак Зачарэўе, Каменполле і раённага цэнтра міліцыя знайшла і канфіскавала малакаліберныя вінтоўкі, супраць іх распачалі крымінальныя справы.

**Верхнядзвінск**. Каля апоўначы ў аграгарадку Шайцерава польская фура Scania збіла насмерць на трасе Полацк – граніца Латвіі 23-гадовага вяскоўца хлопца без флікераў.

**Глыбокае.** Глыбокай ноччу ў райцэнтры па няўсветленых прычынах загарэлася павець побач з домам, у выніку пажару агонь знішчыў дах, пашкодзіў столь.

**Наваполацк.** Міліцыя пачала праверку начнога здарэння, калі навучэнец аднаго з каледжаў Віцебска саскочыў з маста ў раку Заходняя Дзвіна і ледзь не загінуў.

**Шаркаўшчына.** На прайшоўшым у Віцебску міжнародным турніры па таэквандо мясцовы атлет Іван Хвяцковіч перамог у катэгорыі да 61 кг і стаў кандыдатам у майстры спорту.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Каму яшчэ варта паставіць помнік на Алеі славутых землякоў?

**Усе ведаюць пра глыбоцкую Алею славутых землякоў, дзе ўсталяваны бюсты славутых глыбачан. А каму б яшчэ, на вашу думку, варта ўсталяваць бюст на гэтай Алеі?**



**Зміцер Бартосік, Мінск:**

– Дуж-Душэўскаму, адназначна. Я быў у здзіўленні, што на Алеі няма яго бюста. А ён там павінен быць адным з першых. Ён распрацаваў эскіз першага сцяга незалежнай Беларусі, гэта адзін з пачынальнікаў беларускай незалежнай дзяржавы. Шмат у чым дзякуючы яму мы зараз маем пашпарты суверэннай дзяржавы. Атрымоўваецца, дзяржава ёсць, а помніка яму няма да гэтага часу.



**Яраслаў Берніковіч, Глыбокае:**

Дуж-Душэўскаму. Шыльда на доме па вуліцы Горкага яму ўсталявана, гэта добра, але і помнік таксама павінен быць. Ён шмат зрабіў не толькі для Беларусі, але і для суседняй Літвы.



**Андрусь Храпавіцкі, Вільня:**

– Тадэвушу Даленга-Мастовічу, Клаўдзію Дуж-Душэўскаму або Паўліне Мядзёлцы. Хоць там ужо асабліва няма куды ставіць новыя бюсты. Але неабавязкова, каб гэтыя помнікі стаялі ў адным месцы, можна паставіць дзе і ў іншай частцы горада.



**Таццяна Смоткіна, Глыбокае:**

– Вядома, найперш трэба паставіць помнік Дуж-Душэўскаму. Адной шыльды на доме тут мала. Таксама сястра Тадэя вартая таго, каб ушанаваць яе памяць. Яна шмат зрабіла для адукацыі дзяўчат горада, але зараз глыбачане незаслужана забыліся пра яе заслугі.



**Генадзь Плавінскі, Глыбокае:**

– Паўліна Мядзёлка вартая таго, каб яе бюст стаяў у Глыбокім. Юры Зяновіч таксама. Не абавязкова, каб іх бюсты былі на Алеі, можна дзе і ў іншым месцы. Напрыклад, Паўліне Мядзёлцы можна было б паставіць каля мастацкай школы. А яшчэ я б хацеў, каб была ўсталявана памятная шыльда фундатару храмаў Іосіфу Корсаку на сцяне храма Прасвятой Багародзіцы. Для біюстаў зараз магчыма і сродкаў няма, а вось каб усталяваць памятную дошку, шмат грошай не трэба, патрэбна толькі жаданне.



**Віктар Дудкевіч, Глыбокае:**

Стваральніну глыбоцкага дэндрапарку Віктару Ламаку. Таксама варта ўшанаваць памяць аграномa Баляслава Лапыра, бо Вішнёвыя фэсты штогод праходзяць, і ў той славе, што займела глыбоцкая вішня, вялікая заслуга гэтага чалавека. Яшчэ нядрэнна было б паставіць бюст глыбоцкаму кавалю Аляксандру Дубіну, які быў пачынальнікам адраджэння кавальскага майстэрства, прычым не толькі ў Глыбокім.

*Апытваў Зміцер Лупач*

Уладзімір Скрабатун

# Глыбокае перакрочыла 19-тысячную мяжу,

## аднак колькасць насельніцтва ў раёне за дваццаць пяць гадоў зменшылася на 14 954 чалавекі

**Нацыянальны Статыстычны Камітэт Рэспублікі Беларусь апублікаваў дакумент – "Колькасць насельніцтва на 1 студзеня 2017 г. і сярэднегадавая колькасць насельніцтва за 2016 год па Рэспубліцы Беларусь у разрэзе абласцей, раёнаў, гарадоў, пасёлкаў гарадскога тыпу".**

Зазірнуўшы ў яго, мы можам даведацца, якая колькасць насельніцтва была ў Глыбоцкім раёне па стане на 1 студзеня 2017 года, а таксама ў нашых суседніх раёнах, якія мяжуюць з нашым.

Так, колькасць насельніцтва ў Глыбоцкім раёне – 37 282 чалавекі, сярэднегадавая за 2016 год – 37 496. У Глыбокім, па стане на 1.01.2017 жыло – 19 038 чалавек, у Падсвіллі[1] – 1 945. Усяго гарадскога насельніцтва – 20 983 чалавек, сельскага – 16 299. Калі верыць Вікіпедыі, то на 1 студзеня 2016 года, у Глыбокім жыло — 18 921 чалавек. Прырост – 117 жыхароў. Гэта значыць – 0,61%. Слабавата на фоне іншых гарадоў Беларусі! Не будзем браць Мінск, а возьмем адпаведны Глыбокаму іншы горад Беларусі. Скідзель – 1,1%, Мядзел – 1,14%, Калінкавічы – 1,14%, Лунінец – 1,23%, Лагойск – 1,66%, Заслаўе – 1,77%, Ашмяны – 1,81%, Столін – 2,46%, Фаніпаль – 4,76%, Астравец – 7,15%.

Ладна, Астравец нам не цікавы! Там АЭС будуюць. Мала цікавыя нам і блізкія да Мінска гарады: Лагойск, Заслаўе, Фаніпаль. Але звяртаюць на сябе ўвагу: Столін, Ашмяны, Мядзел, Лунінец … Тут не сотня прыросту, як у Глыбокім, а некалькі сотняў, а то і тысяча!

Зрэшты, добра і тое, што Глыбокае не "вымірае"! Падзенне колькасці насельніцтва – нікому не выгоднае! І хто тады будзе наведваць крамы, кавярні, рынкі… Каго тады выведзеш на суботнікі?

Як там у нашых блізкіх суседзяў? Зважаючы з факта перманентнага антаганізму паміж Глыбокім і Паставамі, асмелюся адзначыць, што ў Паставах не на пяць і нават не на дзве тысячы жыхароў больш! Усяго толькі – на 844 чалавекі. Было на 1.01.2016 – 20 039 чалавек, а на 1.01.2017 – ужо 19 882. А то прыедзеш у гэтыя Паставы і там табе такога набаюць!!! – Паставы большыя за Глыбокае на пяць тысяч чалавек, у Паставах – 5 школаў, а ў Глыбокім – 3, у Паставах – 2 Дамы культуры, у Глыбокім – 1… Тамтэйшы краязнаўца Міхал Гіль мяне заўсёды пераконваў: "Запомні, Валодзя, Паставы ніколі не лягуць пад Глыбокае!". Што праўда, тамтэйшаму малаказаводу пашанцавала адбіцца ад пасяганняў нашага Глыбоцкага малочнакансервавага камбіната. Зрэшты, я – рады за пастаўскі малаказавод! А то цяпер уцягнулі б яго ў нейкі глыбоцкі холдынг!...

У Шаркоўшчынскім раёне ўсяго насельніцтва – 15 113 чалавек, у самой Шаркоўшчыне – 6 330. Не на шмат больш народа пражывае ў Мёрскім раёне: усяго насельніцтва – 20 289, у саміх Мёрах – 8 001, у г. Дзісна – 1 500. Докшыцкі раён крыху апярэджвае Мёрскі: усяго насельніцтва ў Докшыцкім раёне – 23 103, у Докшыцах – 6 827, Бягомлі – 2 683. Больш, чым у Докшыцкім – у Браслаўскім: усяго насельніцтва – 25 946, у Браславе – 9 817, Відзах – 1 697. Скрушна! У гэтым пераліку няма ўжо Друі! Друя некалі была горадам з магдэбурскім правам, потым стала гарадскім пасёлкам, а ў гады незалежнай Беларусі нізведзеная да статусу вёскі.

Самы малалікі раён Віцебскай вобласці – Расонскі: усяго насельніцтва – 9 351, у Расонах – 4 888.

Трэба, перадусім, адзначыць, што калі не браць пад увагу Аршанскі раён (Орша – 115 938), Полацкі (Полацк – 85 012, Наваполацк – 102 288), то ніводзін іншы раён не перавышае Глыбоцкі раён па колькасці насельніцтва, нават Пастаўскі – 35 969, супраць Глыбоцкага – 37 282. У Віцебскім раёне (без Віцебска, дзе – 369 933) жыве менш, чым у Глыбоцкім – 37 206.

Натуральна, каб убачыць усю дынаміку дэмаграфічнай сітуацыі цягам за некалькі гадоў, то яе трэба параўнаць з колькасцю насельніцтва Глыбоцкага раёна за нейкі пэўны аддалены год. Аказваецца, гэтая інфармацыя – засакрэчаная! Ніводная сённяшняя Вікіпедыя не прадстаўляе такіх дадзеных. У інтэрнэце, натуральна, можна засакрэціць! А як быць з паперай, г.зн., кнігамі? Нельга ж засакрэціць, напрыклад, кнігу "Памяць. Глыбоцкі раён", якая пісалася ў 1993-94 гг., а выйшла ў свет у 1995 годзе. "Памяць" мае шмат хто з глыбачанаў у сваёй хатняй бібліятэцы. На старонках 18-19 ёсць патрэбная інфармацыя, па стане на 1.01.1992 г, Глыбоцкі раён – 52 236 чалавек. За 25 гадоў Глыбоцкі раён – "змёр" на 14 954 чалавекі! А гэта – насельніцтва цэлага раёна, напрыклад, цяперашняга Шаркоўшчынскага! Таму і засакрэцілі! Адразу бачна, што ў нас далёка і не рай, як паведамляюць некаторыя СМІ!

1. Па стане на 1.01.1992 г у Падсвіллі жыло – 3013 чалавек.




# Хацелася б, каб нашае пажаданне пачулі!

**Ва ўсе часы лічылася, што землі, на якіх узведзеныя храмы, валодаюць выратавальнай сілай, таму такія тэрыторыі заўсёды стараліся ўтрымліваць у парадку. Не выключэннем з'яўляецца наша Глыбоцкая царква Ражства Найсвяцейшай Багародзіцы.**

На наш погляд, тут вельмі прыгожа, не кідка, з густам зробленае шмат, але не ўсё. Вялізныя, перарослыя векавыя дрэвы ўтойваюць у сябе небяспеку, і ў выпадку ўзнікнення якой-небудзь прыроднай з'явы, як ураган, ці моцная навальніца, можа здарыцца няшчасце. Дрэвы могуць заваліцца на вельмі старую сцяну, якая стаіць побач, якая ў сваю чаргу заваліцца на аўтамабілі і турыстычныя аўтобусы. Акрамя таго гэтыя дрэвы перашкаджаюць зрабіць якасны здымак царквы з патрэбнага ракурсу.

Настаяцель царквы, айцец Сергій у размове з намі заўважыў, што ў мінулыя гады звяртаўся ў ЖКГ з просьбай акультурыць дрэвы, аднак просьба засталася недапачутай. А нам, веруючым людзям, ды і ўсім гараджанам хацелася б, каб тэрыторыя нашай царквы была не толькі прыгожай і дагледжанай, але і бяспечнай.

Хацелася б, каб гэтае маленькае пажаданне пачулі ці прынялі да ведама адказныя службовыя асобы.

***Прыхаджане глыбоцкай царквы.***



Аляксей Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Едзеш на прыроду – вазьмі мяшок для смецця!

**Вясна актыўна ўступае ў свае правы, дні становяцца значна даўжэй, сонца свеціць ярчэй, цёплых дзён становіцца ўсё больш. Вызваліліся ад лёду практычна ўсе вадаёмы, пачаўся актыўны нераст практычна ўсіх відаў рыбы, а значыць настае час самых строгіх вясновых абмежаванняў на лоўлю рыбы.**

Рыбаловы-аматары штодня звяртаюцца ў міжрайінспекцыю з пытаннямі пра тэрміны вясновых абмежаванняў, пра забароны на лоўлю асобных відаў рыбы, пра змены ў правілах рыбалоўства.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету лічыць неабходным яшчэ раз нагадаць рыбаловамаматарам пра тэрміны вясновай забароны, абмежаваннях і выкананні патрабаванняў правіл рыбалоўства.

Паводле Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь, лоўля ўсіх відаў рыбы ў рыбалоўных угоддзях забараняецца на тэрыторыі **Віцебскай вобласці з 10 красавіка па 8 чэрвеня, за выключэннем, аматарскага рыбалоўства, які здзяйсняецца адной вудай з адным кручком ці адным спінінгам, абсталяваным штучнай прынадай, з адным адзінарным, ці падвойным, ці патройным кручком у светлы час сутак з берага (без заходу ў ваду) або з лёду, са штучных збудаванняў.**

У гэты перыяд забаронена выкарыстанне грамадзянамі плаўсродкаў усіх відаў, для перасоўвання па вадзе, за выкарыстанне плавальных сродкаў, у перыяд вясновай забароны адміністрацыйны кодэкс прадугледжвае штраф у памеры да 30 базавых велічынь ці 690 рублёў.

Акрамя ўказаных забарон Правілы прадугледжваюць увядзене забароны на лоўлю асобных відаў рыбы, так:

**- у Віцебскай вобласці забарона на лоўлю шчупака звычайнага настае з 9 сакавіка да 25 красавіка ўключна, усімі відамі рыбалоўных снасцяў.**

**За незаконнае вылоўліванне шчупака ці знаходжанне ў рыбалоўных угоддзях з асобінамі шчупака прадугледжана адміністрацыйная або крымінальная адказнасць.**

Урон за незаконную здабычу адной асобіны шчупака складае 207 рублёў, плюс штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь.

– лоўля **судака** забаронена з 15 красавіка па 30 траўня

– лоўля **сома** звычайнага забаронена з 31 траўня па 1 ліпеня ўключна.

Паважаныя аматары рыбалкі, калі ласка, будзьце гаспадарамі не толькі ў сябе дома, але і знаходзячыся на прыродзе, захоўвайце чысціню нашых прыгожых вадаёмаў, лясоў.

**Настае час выезду на прыроду, не забудзьцеся ўзяць з сабою мяшок для смецця.**

Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце патэлефанаваць на нумар "гарачай лініі" Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 5-59-80 ці маб. мтс: 897-23-02, 645-66-78, 890-55-28, 249-45-49.



# Пракуратуры Глыбоцкага і Пастаўскага раёнаў разам з Інспекцыяй правялі абследаванне водаахоўных зонаў паблізу фермаў. Будуць і пакараныя!

**В.Е. Катовіч,**
*старэйшы дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

У адпаведнасці з арт. 53 Воднага кодэкса Рэспублікі Беларусь, для прадухілення забруджвання, засмечвання і знясілення водных аб’ектаў, а таксама захавання асяроддзя пражывання аб’ектаў жывёльнага свету і вырастання аб’ектаў расліннага свету на тэрыторыях, якія прылягаюць да водных аб’ектаў, усталёўваюцца водаахоўныя зоны. У межах водаахоўных зон вылучаюцца прыбярэжныя палосы строгага ахоўнага рэжыму. У водаахоўнай зоне рэк і вадаёмаў усталёўваецца адмысловы рэжым гаспадарчай і іншай дзейнасці. У межах водаахоўных зон забараняецца:

- узвядзенне, эксплуатацыя, рэканструкцыя, капітальны рамонт аб’ектаў пахавання адыходаў, аб’ектаў абясшкоджвання адыходаў, аб’ектаў захоўвання адыходаў (за выключэннем санкцыянаваных месцаў часовага захоўвання адыходаў, якія выключаюць магчымасць траплення адыходаў у павярхоўныя і падземныя воды);
- узвядзенне, эксплуатацыя, рэканструкцыя, капітальны рамонт аб’ектаў захоўвання і (ці) аб’ектаў пахавання хімічных сродкаў абароны раслін;
- складаванне снегу з утрыманнем пяшчана-солевых сумесяў, супрацьлёдавых рэагентаў;
- размяшчэнне палёў арашэння сцёкавымі водамі, могільнікаў, жывёльных могільнікаў, палёў фільтравання, ілавых і шламавых пляцовак (за выключэннем пляцовак, што ўваходзяць у склад ачышчальных збудаванняў сцёкавых вод з поўнай біялагічнай ачысткай і водазаборных збудаванняў, пры ўмове правядзення на такіх пляцоўках мерапрыемстваў па ахове вод, прадугледжаных праектнай дакументацыяй);
- мыйка транспартных і іншых тэхнічных сродкаў;
- уладкаванне летніх лагераў для сельскагаспадарчых жывёл;
- рубка лесу, выдаленне, перасадка аб’ектаў расліннага свету без лесаўладкавальных праектаў, праектнай дакументацыі, зацверджаных ва ўсталяваным заканадаўствам парадку, без дазволу мясцовага выканаўчага і распарадчага органа, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам аб выкарыстанні, ахове і абароне лясоў, аб раслінным свеце, аб транспарце, аб Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь.

Існыя на тэрыторыі водаахоўных зон населеныя пункты, прамысловыя, сельскагаспадарчыя і іншыя аб’екты павінны быць добраўпарадкаваныя, абсталяваны цэнтралізаванай сістэмай каналізацыі ці воданепранікальнымі выграбнымі, іншымі прыладамі, якія забяспечваюць прадухіленне забруджвання, засмечвання вод, з арганізаваным пад’ездам для вывазу змесціва гэтых прылад, сістэмамі дажджавой каналізацыі. Жывёлагадоўчыя фермы і комплексы, размешчаныя на тэрыторыі водаахоўных зон, павінны быць абсталяваныя воданепранікальнымі гноесховішчамі і жыжазборнікамі, іншымі прыладамі і збудаваннямі, якія забяспечваюць прадухіленне забруджвання, засмечвання вод, з арганізаваным пад’ездам для вывазу змесціва гэтых прылад і збудаванняў.

Правядзенне прац па добраўпарадкаванні водаахоўных зон, узнаўленні элементаў добраўпарадкавання і размяшчэнне малых архітэктурных формаў у водаахоўных зонах ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам у вобласці архітэктурнай, горадабудаўнічай і будаўнічай дзейнасці, аб ахове і выкарыстанні зямлі.

Заканадаўчымі актамі могуць быць усталяваныя і іншыя забароны і абмежаванні гаспадарчай і іншай дзейнасці ў водаахоўных зонах.



У сувязі з наступленнем цёплага надвор’я і раставаннем снегу Глыбоцкай міжраённай інспекцыяй аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з пракуратурамі Пастаўскага і Глыбоцкага раёнаў у сакавіку было арганізавана абследаванне жывёлагадоўчых фермаў, размешчаных у водаахоўных зонах рэк і азёр. Падчас абследавання быў выяўлены шэраг парушэнняў. У Пастаўскім раёне пры абследаванні жывёлагадоўчых фермаў “Вайцехі”, “Бялькі”, “Чаромушнікі”, “Кейзікі”, “Пашкова” не забяспечана правядзенне мерапрыемстваў, якія выключаюць магчымасць траплення гнаявой фракцыі ў павярхоўныя воды, акрамя таго на фермах “Чаромушнікі”, “Пашкова” дапушчана забруджванне драўняна-хмызняковай расліннасці адыходамі вытворчасці і побытавымі адыходамі. У Глыбоцкім раёне пры абследаванні жывёлагадоўчых фермаў “Свядава”, “Карабы” не забяспечана правядзенне мерапрыемстваў, якія выключаюць магчымасць траплення сцёкавых вод з сіласных ям у павярхоўныя воды, акрамя таго на фермах “Свядава”, “Двор Залессе” дапушчана забруджванне драўняна-хмызняковай расліннасці адыходамі вытворчасці і побытавымі адыходамі. Юрыдычныя асобы, у ведамстве якіх знаходзяцца ўказаныя фермы, а таксама службовыя асобы прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці па ч. 2 арт. 15.30 і ч. 2 арт. 15.51 КоАП Рэспублікі Беларусь.

У адпаведнасці з ч. 2 артыкула 15.51 КоАП Рэспублікі Беларусь, парушэнне рэжыму ўтрымання водаахоўных зон і прыбярэжных палос водных аб’ектаў ці водаахоўнага рэжыму на вадазборах, іх забруджванне цягнуць накладанне штрафу ў памеры да дзесяці базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – да трыццаці базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да пяцідзесяці базавых велічынь. Паводле ч. 2 артыкулы 15.30 КоАП Рэспублікі Беларусь, забруджванне драўнянахмызняковай расліннасці, не ўваходнай у дзяржаўны лясны фонд, адыходамі ці сцёкавымі водамі або іншым спосабам цягнуць накладанне штрафу ў памеры да дваццаці базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – да пяцідзесяці базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да трохсот базавых велічынь.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць на тэлефон даверу 8(02156)5-59-70 ці на мабільныя тэлефоны: МТС 897-23-02, МТС 890-55-28, МТС 249-45-49, МТС 645-66-78.

# За бяспеку разам!

**Умэтах папярэджання пажараў і гібелі людзей ад іх у жыллёвым фондзе з 3 па 28 красавіка ў Глыбоцкім раёне пройдзе рэспубліканская пажарна-прафілактычная акцыя “За бяспеку разам”.**

Яна накіраваная на падвышэнне ўзроўню бяспекі насельніцтва, актывізацыю пажарна-прафілактычнай працы, аналіз яе эфектыўнасці і ацэнку гатоўнасці тэрыторый да вяснова-летняга пажаранебяспечнага перыяду.

У акцыі прымуць удзел працаўнікі МНС, органаў унутраных спраў, адукацыі, аховы здароўя, сацыяльнай сферы, ЖКГ, інспекцый энерганагляду і іншыя суб’екты прафілактыкі.

У рамках акцыі будзе аказана ўсебаковая дапамога органам дзяржаўнага кіравання, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам у навучанні грамадзян і членаў пазаштатных пажарных фармаванняў правілам пажарнай бяспекі ў побыце і на вытворчасці. Падчас акцыі на працягу месяца пройдуць рэйдавыя праверкі жыллёвага фонду, сустрэчы ў працоўных калектывах прадпрыемстваў і арганізацый, будзе арганізавана прафілактычная і тлумачальная праца сярод насельніцтва.

Акрамя таго, цэлы шэраг мерапрыемстваў акцыі будзе накіраваны на ўмацаванне прававога парадку, папярэджанне правапарушэнняў, якія здзяйсняюцца грамадзянамі, якія знаходзіліся ў стане алкагольнага ап’янення. Адмысловая ўвага будзе надавацца сем’ям, у якіх дзеці знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы, а таксама праблеме пакідання малалетніх дзяцей без нагляду.

Правядзенне такіх акцый накіравана на стабілізацыю становішча з пажарамі і гібеллю на іх людзей, а таксама прыцягненне ўвагі насельніцтва да пытанняў забеспячэння бяспекі.

***Глыбоцкі РАНС.***

3 апреля- 28 апреля

МЧС РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

ЗА БЕЗОПАСНОСТЬ ВМЕСТЕ!

профилактическая акция

В ходе акции работники МЧС:

- Посетят по месту жительства одиноких и одиноко проживающих престарелых граждан и инвалидов, семьи, в которых дети находятся в социально-опасном положении.
- Дадут разъяснения и рекомендации гражданам по повышению уровня пожарной безопасности жилищ.
- Проведут совместные рейды по проверке противопожарного состояния мест общего пользования в многоквартирных жилых домах.
- Осуществят мониторинг состояния источников противопожарного водоснабжения.
- Выступят в трудовых коллективах по вопросам соблюдения правил пожарной безопасности.
- В период проведения профилактической акции каждый гражданин может обратиться в территориальный орган по чрезвычайным ситуациям для проведения обследования противопожарного состояния жилища

Акция проводится при участии: МВД, Минздрава, Минтруда и соцзащиты, Минобразования, Growinform, Минжилкомхоза, Минэнерго.

# У Беларусі павысілі базавую арэндную велічыню

**Базавая арэндная велічыня ў Беларусі з 1 красавіка павялічаная да Br15,2. Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў ад 7 сакавіка 2017 года №182, паведамілі БЕЛТА ў прэсслужбе ўрада.**

Раней базавая арэндная велічыня складала Br13,6.

Базавая арэндная велічыня ўжываецца ў разліках арэнднай платы пры арэндзе плошчаў, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці. Гэта тычыцца ўласнасці гаспадарчых таварыстваў, у статутных фондах якіх больш за 50% акцый (доляй) знаходзіцца ва ўласнасці Беларусі або яе адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, а таксама капітальных пабудоў (будынкаў, збудаванняў), ізаляваных памяшканняў, машына-месцаў, іх частак, уключаючы капітальныя будынкі (будынкі, збудаванні), ізаляваныя памяшканні, іх часткі на рынках і ў гандлёвых цэнтрах.

***БелТА.***

# Пад Віцебскам абясшкодзілі склад боепрыпасаў

**Больш двухсот выбуханебяспечных прадметаў выявілі 31 сакавіка ля вёскі Кузьменцы Віцебскага раёна падчас палявых прац.**

Выкліканыя на поле сапёры вайсковай часткі 5524 вынялі 162 артылерыйскія снарады, 6 выбухоўнікаў да іх, 27 гранат і 19 мін часоў Другой сусветнай вайны. Боепрыпасы вывезлі і абясшкодзілі, паведамляе прэс-служба МУС.

***ННВ.***

